Шаноўны дружа!

Ты трымаеш другую кнігу з серыі «Гісторыя для школьнікаў», якая прысвечана незвычайнаму чалавеку – полацкаму князю Усяславу. Гэта кніга выходзіць у год, калі самы старажытны беларускі горад Полацк адзначае сваё 1150-годдзе. Сваёй веліччнасцю, моцай горад у многім быў абавязаны менавіта свайму славутаму князю, чыя слава сягала далёка за межы створанай ім дзяржавы – Полацкай зямлі.
Па старонках кнігі, услед за полацкім князем, ты трапіш то ў Пскоў, то ў Ноўгарад, то ў Кіеў і далёкую Тмутаракань. Ты даведаешся, што такое сапраўдны гонар, якой бывае здрада, як дасягаецца перамога на ратным полі і якой бывае перамога духу.

ГІСТОРЫЯ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

**Сяргей Тарасаў**






МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»
2012

УДК 087.5:94(476)«10»
ББК 63.3(4Беи)
Т19

*Серыя заснавана ў 2012 годзе*

Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту

Мастак А. Правалінскі

**Тарасаў, С.**
Т19 Усяслаў Чарадзей : для сярэд. і стар. шк. ўзросту / С. Тарасаў ; маст. А. Правалінскі. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2012. — 20 с. : іл. — (Гісторыя для школьнікаў).

ISBN 978-985-11-0644-4.

Гістарычны нарыс прысвечаны выдатнаму палітычнаму дзеячу Старажытнай Русі полацкаму князю Усяславу Брачыславічу, празванаму Чарадзеем, герою «Слова аб палку Ігаравым», вядомаму ва усходнеславянскім фальклоры пад імем Волх Усяславіч.

**УДК 087.5:94(476)«10»**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-11-0644-4**



олацкая княжацкая дынастыя на працягу сваёй 400-гадовай гісторыі мела две назвы — Рагвалодавічы і Усяславічы. Рагвалодавічамі князі называліся ў асноўным у X—XI стагоддзях, Усяславічамі — у XII—XIII стагоддзях. Гэта не дзіўна, бо Усяслаў Брачыславіч, як і яго прадзед Рагвалод, былі самыя вядомыя з усёй дынастыі. Рагвалод — першы полацкі князь, які згадваецца ў летапісных крыніцах пад 980 годам, а паводле меркавання некаторых гісторыкаў — пад 970 годам.

Лёс Рагвалода і яго княства быў незайздросны, трагічны. І гэта стала адной з прычын варожасці полацкіх і кіеўскіх князёў. Сын Ізяслава Брачыслаў пачаў працу па адраджэнні былой моцы і славы Полацкай зямлі. Пасля смерці кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча ў 1015 годзе ўся нетрывалая дзяржава Рурыкавічаў была падзелена паміж яго нашчадкамі. Сярод іх найбольш магутнымі былі князі Яраслаў Наўгародскі, Мсціслаў Тмутараканскі і Брачыслаў Полацкі.

Вось у такі складаны і супярэчлівы час у Брачыслава Полацкага і нарадзіўся сын Усяслаў. Для Полацкай зямлі гэта быў перыяд адноснага спакою. Набыўшы фактычную незалежнасць, княства толькі набіралася моцы, вызначаліся яго межы. Новы кіеўскі князь Яраслаў спачатку спрабаваў ваяваць з Брачыславам, але мусіў аддаць яму гарады Віцебск і Усвяты. У далейшым ён пазбягаў абвастраць адносіны з Полацкам, бо адчуваў, што той здолее адстаяць свае інтарэсы.

Год 1044. Летапісец адзначыў: «У гэты час памёр Брачыслаў, князь полацкі, сын Ізяслава, унук Уладзіміра, бацька Усяслава, і Усяслаў, сын яго, сеў на стале». Усё досыць звычайна... аднак, дзівосная вестка аб нараджэнні Усяслава дайшла да нас праз усе нягоды і дагэтуль чаруе сваёй загадкавасцю. Вось як далей апавядае летапіс: «Маці ж яго нарадзіла ад чарадзейства. Калі маці яго нарадзіла, на галаве яго была язьвена. І сказалі вешчуны яго маці: «Гэтую сарочку навяжы па яго, няхай носіць яе да смерці». І носіць яе на сабе Усяслаў і сёння, таму і нялітасцівы ён на кровапраліцце».

На пытанне аб тым, што за «язьвена» была на галаве князя ад нараджэння, гісторыкі адказваюць па-рознаму. Некаторыя (В.Я.Данілевіч, М.В. Каяловіч) лічылі, што гэта быў каўтун, іншыя (Д.С.Ліхачоў, Б.А.Рыбакоў) — што рэшткі зародкавай абалонкі,

так званая сарочка, з якой калі-нікалі нараджаюцца дзеці. Трэція схільныя думаць, што гэта быў радзімы знак на галаве, ці Божы знак. Мы схіляемся да другога з названых тлумачэнняў, бо толькі ў такім выпадку гэтую «язьвену» «сарочку» можна было навязаць на галаву дзіцяці і насіць у якасці талісмана.

У вядомай старажытнай быліне «Волх Усяславіч» ёсць наступныя радкі:

*Стаў сабе Волх ён дружыну прыбіраць:*
*Дружыну прыбіраў у тры гады,*
*Ён набраў дружыну сабе сем тысяч,*
*Сам ён, Волх, у пятнаццаць гадоў,*
*І ўся дружына яго па пятнаццаць гадоў.*

Калі князь пачынаў збіраць дружыну? Калі збіраўся ў паход або калі станавіўся паўнапраўным валадаром — стольным князем. У апошнім выпадку, адпаведна сярэдневяковаму рыцарскаму кодэксу, дружына прыносіла новаму князю клятву на вернасць. Менавіта пра гэта апавядае быліна.

Малады ўзрост князя не павінны здзіўляць. У тыя часы гэта было звычайнай з'явай. Варта прыгадаць, напрыклад, што Аляксандр Яраславіч Неўскі стаў наўгародскім князем ва ўзросце 16 гадоў. Зразумела, што былінны ўзрост пятнаццаць гадоў можа быць чыста ўмоўным. У якасці гістарычнага факта ім карыстацца нельга. І тым не менш...

Зробім просты матэматычны разлік. З летапісаў дакладна вядома, што Усяслаў стаў полацкім князем пасля смерці бацькі Брачыслава ў 1044 годзе. Калі ад 1044 адняць 15, то атрымаем 1029. А зараз давайце паглядзім, што ў гэты час адбывалася на Кіеўскай Русі.





Калі ісці гістарычным шляхам услед за летапісамі, то 16 гадоў, якія мінулі пасля ўзыходжання Усяслава на полацкі прастол, нічым для гэтай зямлі не вызначаліся. За гэты час у Кіеве памірае жонка Яраслава Мудрага грачанка Ірына, пасля — сын Уладзімір, а ў 1054 годзе і сам Яраслаў. Перад смерцю князь паспеў падзяліць усе землі паміж сваімі сынамі. Старэйшаму, Ізяславу, дастаўся Кіеў, Святаславу — Чарнігаў, Усеваладу — Пераяслаў, Ігару — Уладзімір, Вячаславу — Смаленск. Праз тры гады памёр Вячаслаў. У Смаленску браты пасадзілі Ігара, які памёр у 1060 годзе.

Калі вядомыя сёння летапісы нічога не гавораць пра дзейнасць Усяслава тых гадоў, то некаторыя звесткі можна атрымаць з іншых крыніц, напрыклад археалагічных.

Якім быў Полацк у IX—X стагоддзях, мы ведаем. Гэта — невялікае гарадзішча плошчай каля аднаго гектара і паселішча вакол яго — каля сямі гектараў. Да сярэдзіны XI стагоддзя істотных





змен у тапаграфіі горада не адбывалася. Хіба што павялічыўся вакольны горад — да 20 гектараў. А вось у сярэдзіне — другой палове XI стагоддзя выгляд Полацка рэзка мяняецца. Па загадзе Усяслава Чарадзея палачане і жыхары воласці будуюць новы ўмацаваны цэнтр горада — дзяцінец, які ў наступныя атрымаў назву Вышні або Верхні замак. На прыгожым узвышшы, у самай сутоцы рэк Палата і Дзвіна, разраўнялі пляцоўку, падвезлі бярвенне, гліну, вапну. Хто ведае, колькі людзей сышлося тады на тую старадаўнюю талаку! Ды толькі работа віравала такімі тэмпамі, што нам, сённяшнім, не грэх бы і павучыцца.

На той час ва Усходняй Еўропе ўжо было некалькі вялікіх мураваных цэркваў у буйных гарадах: Дзесяцінная і Сафійскі сабор у Кіеве, Сафійскі сабор у Ноўгарадзе. Галоўныя храмы ў стольных гарадах старажытных княстваў з'яўляліся сімваламі не толькі хрысціянскага веравызнання, але велікакняжацкай улады, былі яе неад'емнымі атрыбутамі. Глыбокі сэнс самога хрысціянскага хра-

ма ў яго саборнасці — усё збіраецца разам пад яго сутарэннем, дзеля спасціжэння Бога, выратавання душы. Саборнасць — ідэя аб'яднання людзей, іх фізічных і духоўных сіл. Вось чаму хрысціянства прыйшлося так натуральна да часу, калі складваліся першыя дзяржаўныя ўтварэнні ва Усходняй Еўропе. Царква дапамагала людзям аб'яднацца, заклікала іх да мірнага суіснавання. Гэтыя намаганні імпанавалі князям, валадарам розных зямель. Не быў выключэннем і Усяслаў.

Не дзіўна, што ў якасці ўзору для галоўнага храма Полацка быў абраны Сафійскі сабор. Такія саборы былі ўжо ў Канстанцінопалі — Царградзе, у Кіеве і Ноўгарадзе. Канстанцінопальская Сафія была збудавана пры імператары Юстыніяне ў 532—537 гадах. Такі тып і назва храма былі характэрныя для таго часу. Варта прыгадаць, што нават знакаміты афінскі Парфенон, перетвораны ў хрысціянскі сабор, таксама быў прысвечаны Святой Сафіі. Сафійскі храм у Кіеве пабудаваны візантыйска-балгарскімі майстрамі не пазней 1030-х гадоў, наўгародская Сафія — ў 1045—1050 гадах.



Відаць, Усяслаў атрымаў добрую на той час адукацыю. Грамату і навуку ён спасцігаў з маленства, яшчэ пры жыцці бацькі Брачыслава. Навучанне дзяцей ў княжацкіх сем'ях па тым часе было самым дасканалым. Параўнаць яго можна было толькі з выхаваннем у манастырах. Але калі ў манастырах перавага аддавалася чытанню Бібліі і твораў айцоў царквы, то для князя гэта была яшчэ і валадарская, дружынная навука. Паводле кодэксу рыцарскага гонару, які быў шырока распаўсюджаны ва ўсёй Еўропе, князь мусіў дасканала валодаць усімі відамі тагачаснай зброі. Сапраўдным ваяром лічыўся той, хто сядзеў на кані лепш, чым хадзіў па зямлі.

Адукаванасць князёў, у тым ліку і Усяслава, слушна будзе звязаць з пашырэннем хрысціянства на Полаччыне. Да таго часу, як Чарадзей стаў вялікім князем полацкім, у горадзе ўжо існавалі епіскапія, хрысціянскія храмы. Пад 1092 годам летапіс прыгадвае полацкага епіскапа Нічыпара, які з цягам часу стаў кіеўскім мітрапалітам.

Калі была спасцігнута «тэарэтычная» навука, вызначаны межы княства, умацаваны гарады, надышоў час Усяслава паспрабаваць сябе ў справе. Хутка здарылася і нагода. Да паўднёвых

кіеўскіх зямель наблізіліся стэпавыя качэўнікі — торкі. Раней Кіеву пагражалі з поўдня печанегі, але зараз паўсталі ворагі не менш небяспечныя. Кіеўскія князі браты Яраславічы (дзядзькі Усяслава) — Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад запрасілі Чарадзея прыняць удзел у паходзе на торкаў. Каб перамагчы качэўнікаў, патрэбны былі вялікія сілы, і войска Усяслава было дарэчы. Полацкі князь не мог адмовіць Яраславічам, тым больш што падстаў для гэтага не было, а дамова паміж іх бацькамі — князямі Яраславам і Брачыславам — спрыяла міру, усталяванаму ў апошні гады на ўсіх усходнеславянскіх землях.

Паводле меркаваныя гісторыка М.Ермаловіча, адной з умоў, на якіх Усяслаў удзельнічаў у паходзе, магла быць дамоўленасць, што пасля смерці смаленскага князя Ігара да Полаччыны адыдуць гарады Копысь і Орша. Але як піша сам даследчык, крыніцамі гэта не пацвярджаецца. Тым не менш такая дамоўленасць магла існаваць. Гарады Орша і Копысь стаялі на самой мяжы Полаччыны і Смаленшчыны. На працягу гісторыі феадальных часоў яны неаднойчы мянялі сваю прыналежнасць да той ці іншай зямлі. Але акрамя сур'ёзных палітычных мэт паходу, варта ўлічыць і чыста суб'ектыўныя, чалавечыя.



Чарадзею ў гэты час было каля 31 года. Малады, разумны, дужы, ён меў добрую дружыну, моцнае княства. Ці мог ён доўга сядзець дома без сур'ёзнай справы? Трэба было выпрабаваць сваю сілу, сваё войска, разведаць, на што здатныя дзядзькі — Яраславічы. Апрача таго, аб'яднаўшыся, князі выставілі такую вялікую сілу, што летапісец нават напісаў: «незлічонае войска». Яны маглі спадзявацца на хуткую і лёгкую перамогу. Так яно і адбылося: торкі фактычна разбегліся, калі ўбачыўлі аб'яднаныя княжацкія дружыны. «Князям слава і дружыне», як казаў невядомы аўтар «Слова аб палку Ігаравым».



Спакой на Полацкай зямлі доўжыўся яшчэ пяць гадоў. Пасля паходу на торкаў Усяслаў Чарадзей бавіў час у стольным Полацку. Можна меркаваць, што пры яго апошняй сустрэчы з дзядзькамі паміж Полацкам і Кіевам была дасягнута нейкая дамоўленасць аб падзеле сфер уплыву ва Усходняй Еўропе. Магчыма, ужо тады Чарадзей адстойваў прынцып, які толькі праз 37 гадоў на з'ездзе князёў у Любечы прагучыць як закон: «Кожны хай трымае вотчыну сваю».

Пасля смерці князёў смаленскага Вячаслава Яраславіча і ўладзімірскага Ігара Яраславіча ў 1060 годзе дзядзькі Усяслава, Яраславічы, падзялілі іх удзелы паміж сабою, у тым ліку і Смаленск. Горад стаў цалкам залежыць ад Кіева.

У 1064 годзе мусіў уцячы з Ноўгарада пляменнік Яраславічаў князь Расціслаў. Разам з ім пайшлі дружына, ваяводы Парэй і Вышата — сын ваяводы Астраміра. Усе яны падаліся ў Тмутаракань.



Яраславічы пры падзеле смаленскай і ўладзімірскай спадчыны пакрыўдзілі сваіх пляменнікаў, і акрамя Усяслава Полацкага апошнім не было да каго звярнуцца, тым больш, што Усяслаў Чарадзей трывала стаяў на пазіцыях свайго бацькі Брачыслава ў пытанні незалежнасці і самастойнасці княстваў. У такой сітуацыі Усяслаў Полацкі быў не проста трацейскім суддзёй, але і зацікаўленай асобай.

Адстойваючы прынцыпы княжацкага гонару, Усяслаў не мог не падтрымаць сваіх трохкаленных братоў. Вось чаму, калі ў 1064 годзе Яраславічы прымусілі бегчы з Ноўгарада Расціслава, на наступны год Усяслаў Чарадзей «поча рать держати».

Першы паход Усяслававых дружын быў скіраваны на Пскоў. І не дзіўна, бо гэты горад у непасрэднай блізкасці і залежнасці ад Ноўгарада мог стаць плацдармам для нападу на Полацк і яго навакольныя землі. Да горада былі падцягнуты буйныя сілы, муры абстрэльвалі з вялікіх каменямётных машын — парокаў. Нягледзячы на магутны наступ, пскоўскі замак застаўся непрыступным. Але, думаецца, што ў Чарадзея не было

мэты абавязкова захапіць горад. Паход на Пскоў стаў папярэджаннем для Яраславічаў аб магчымых выніках іх бяздумнай палітыкі. Пскоўскі эпізод з'явіўся нібы прэлюдыяй да паходу на Ноўгарад.

Аднак полацкі Чарадзей не спяшаўся нападаць на Ноўгарад. Паводле «Аповесці мінулых гадоў», ён адступіў ад Пскова, а паводле Акадэмічнага летапісу — спыніўся ў Копысі, дзе стаў збіраць новае войска. Толькі ў 1066 годзе ён рушыў на Ноўгарад. Але, відаць, трохі спазніўся. Там ужо Мсціслаў, сын Ізяслава Яраславіча кіеўскага, паспеў заняць княжацкі прастол. Ён выйшаў з войскам насустрач Усяславу, але быў разбіты ім і ўцёк. Прымусіў Усяслаў уцячы і наступнага наўгародскага князя (стрыечнага брата Мсціслава) Глеба Святаславіча.

Паводле летапісу, Усяслаў захапіў Ноўгарад і спаліў яго да Нераўскага канца, захапіў у палон жанчын і дзяцей, паздымаў з наўгародскай Сафіі званы і панікадзілы. У апошнім, вядома, можна сумнявацца, але ж пра гэта паведамляюць самі наўгародскія летапісы і вельмі падрабязна. На нашу думку, будаўніцтва храма ў Полацку і адначасовае рабаванне святой Сафіі у Ноўгарадзе, пры ўсёй супярэчнасці, адпавядала няўстойліваму хрысціянска-язычніцкаму веравызнанню Усяслава. Магчыма, ён быў хрысціянінам больш па неабходнасці, чым па перакананні, і язычнікам у душы. А таму яго сумленне дазваляла рабаваць чужыя храмы.

Як апавядае «Слова аб палку Ігаравым», захопам Ноўгарада Усяслаў «разбіў славу Яраслава», бо менавіта Ноўгарад доўгі час лічыўся апірышчам Яраслава Мудрага і адпаведна яго нашчадкаў. Таму ўчынак Усяслава не мог застацца без пакарання. Пад 1067 годам летапісец занатаваў: «Яраславічы тры — Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, — сабраўшы разам войскі свае, рушылі на Усяслава, калі была вялікая зіма, і прыйшлі да Менска*. А менчукі зачыніліся ў горадзе, і браты ўзялі Менск, забілі мужчын, а жонак і дзяцей забралі ў здабычу і пайшлі да Нямігі.

---

* Менск (Меньск, Менеск), назва г. Мінска з часоў заснавання да 16—17 стагоддзяў і ў 1918—1939 гадах; паводле меркавання многіх гісторыкаў, у 1067 годзе Менск знаходзіўся каля вёскі Гарадзішча Мінскага раёна і толькі пазней быў перанесены на сучаснае месца.

Усяслаў таксама выступіў супраць, і, сустрэўшыся на Нямізе месяца сакавіка ў трэці дзень, пайшлі яны адны супраць другіх. І быў снег вялікі, і была сеча лютая, і загінулі многія. І перамог Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, а Усяслаў уцёк».

Гэтая бітва, якая адбылася 3 сакавіка 1067 года, была адной з самых жудасных за некалькі стагоддзяў. Нават у канцы XII стагоддзя аўтар «Слова аб палку Ігаравым» прыгадвае яе з болем і горыччу:

*На Нямізе галовы сцелюць снапамі,*
*харалужнымі малоцяць цапамі,*
*жыццё кладуць на таку злюцела,*
*веюць душу ад цела.*
*Нямігі крывавыя берагі*
*не збожжам былі засеяны зноў —*
*засеяны косцьмі рускіх сыноў.*

(Пераклад Р.Барадуліна)



Аднак насуперак таму, што казаў летапісец, для абодвух бакоў бітва была беспераможная. Загінула безліч людзей і ні ў каго не было моцы змагацца далей. Усяслаў адышоў да Полацка, а Яраславічы ўскрайкамі, паўднёвымі межамі Полаччыны рушылі ў бок Смаленска. Адтуль яны і запрасілі полацкага валадара на перамовы, цалуючы Крыж Святы, што не зробяць яму нічога дрэннага.

Усяслаў, спадзеючыся на крыжацалаванне, пераплыў у чоўне Дняпро разам з двума малалетнімі сынамі. Калі ён зайшоў услед за Ізяславам у шацёр, яго схапілі. Разам з сынамі князя як вязня павезлі ў Кіеў і пасадзілі ў турму-поруб*.



Перамовы «на Ршы» не адбыліся. Але і вераломства Яраславічаў не мінулася ім.

У наступным 1068 годзе на паўднёвыя кіеўскія землі абрынуліся незлічоныя орды полаўцаў. Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад выйшлі ім насустрач, але былі разбіты на рацэ Альта.

Услед за гэтым паведамленнем у летапісе ідзе «Павучанне аб кары Божай», якое прыпісваецца ігумену Феадосію Пячэрскаму. Яно накіравана супроць клятвaадступнікаў, гэта значыць Яраславічаў, якія парушылі крыжацалаванне.

Усяславу было наканавана прасядзець разам з сынамі ў порубе 14 месяцаў і 5 дзён замест пажыццёвай няволі, як меркавалі Яраславічы. Разбітыя полаўцамі «за грахі», тры браты пабеглі хавацца ў свае гарады: Святаслаў — у Чарнігаў, а Ізяслаў разам з Усеваладам і рэштай дружыны ў Кіеў. Палавецкая пагроза за-

* Поруб – месца асабліва цяжкага зняволення ў Старажытнай Русі; меў выгляд заглыбленага ў зямлю драўлянага зруба з адным маленькім аконцам у надземнай частцы.

ставалася, а таму кіяўляне сабраліся на веча на гандлёвай плошчы кіеўскага Падола і там патрабавалі ад князя Ізяслава коней і зброю. Князь адмовіў. Тады натоўп з Падола рушыў на двор ваяводы Каснячкі і разрабаваў яго.

Абураны натоўп неўзабаве апынуўся каля дворышча Брачыслава, таго самага, што было заснавана бацькам Усяслава Чарадзея. Зараз гэта быў не толькі гандлёвы полацкі двор у Кіеве, але і своеасаблівае «прадстаўніцтва» палачан на Кіеўшчыне. Тут, каля Брачыславава дворышча, і ўзнікла думка: «Пойдзем, высадзім дружыну са склепа» — вызвалім Усяслава з поруба-турмы. Натоўп падзяліўся на дзве часткі: адна пайшла да поруба, другая — па «мосце», вымашчаным насціле, на князеў двор. Вязніца полацкага князя і яго сыноў імгненна была раскідана па бярвеннях. Там жа на Падоле Усяслаў быў абвешчаны вялікім князем кіеўскім. Ізяславу нічога не заставалася, як, прыхапіўшы дзяржаўную казну, збегчы. Так Усяслаў Полацкі стаў вялікім князем кіеўскім.

Што было ў наступныя месяцы, як кіраваў Чарадзей у Кіеве — мы не ведаем. Вучоныя схіляюцца да таго, што ён знайшоў і коней і зброю (дзеля чаго сягаў ажно да Тмутаракані — сённяшняй Тамані) і адбіў напад ворагаў.

Але ягоны асабісты вораг — выгнаны Ізяслаў — не драмаў. За дапамогай Ізяслаў найперш кінуўся да свайго стрыечнага брата — польскага караля Баляслава Храбрага. Незадарма ён прасіў дапамогі — у якасці платы прапанаваў родную зямлю і Кіеў. Адмовіцца ад такой узнагароды Баляслаў не мог. Сабраўшы вялікае войска, яны разам рушылі на Кіеў.

Насустрач гэтаму войску з Кіева ў бок Белгарада выйшла войска на чале з Усяславам. «І прыйшоў Усяслаў да Белгарада, а калі настала ноч, ён употай ад кіян уцёк з Белгарада да Полацка».

*Скочыў ад іх лютым зверам*
*Апоўчы з Белгарада,*
*Сінім воблакам ахінуўся.*

Нечаканай была такая развязка Усяславава княжання ў Кіеве. Дагэтуль ніхто не можа пераканаўча растлумачыць, чаму Чарадзей добраахвотна адмовіўся ад такога прэстыжнага валадарання. Аднак...

Напрацягу ўсёй гісторыі мы назіраем у полацкіх князёў абвостранае пачуццё Радзімы, Бацькаўшчыны. Верагодна, не магло яно абмінуць і Усяслава.




Вось чаму князь памчаўся на родную зямлю — Полаччыну.

Але і ў родным Полацку не знайшоў Чарадзей спакою. У тым жа годзе Ізяслаў прымусіў яго бегчы са сталіцы родавага княства. Паводле Наўгародскага Першага летапісу, Усяслаў уцёк да фінскага племя водзь, магчыма, да сваякоў па лініі маці.

23 кастрычніка 1069 года ў пятніцу ў 6 гадзін пад Ноўгарадам з'явілася водскае войска на чале з Усяславам Чарадзеем. Хто каго падгаварыў на гэты паход — Усяслаў ці, наадварот, ваджане Усяслава — невядома. Пайсці разам з ваджанамі на Ноўгарад у Чарадзея былі свае падставы. Па-першае, Ноўгарад — старадаўні вораг Полацка і канкурэнт на гандлёвым шляху «з варагаў у грэкі»*, адкуль заўсёды была пагроза. Па-другое, у горадзе тым часам сядзеў яго зацяты асабісты вораг князь Глеб Святаславіч — той самы Глеб, якога Усяслаў выгнаў з Ноўгарада ў 1066 годзе, а пасля з Тмутаракані ў 1068—1069 гадах. Па-трэцяе, у 1069 годзе ў Ноўгарадзе з'явіўся вяшчун**, які выступіў супроць наўгародскага епіскапа Фёдара.

* «З варагаў у грэкі» — старажытны водны шлях, які па рэках Усходне-Еўрапейскай раўніны (Волхаў, Заходняя Дзвіна, Дняпро і інш.) звязваў Балтыйскае мора з Чорным і адпаведна Скандынавію («варагаў») з Візантыяй («грэкамі»).

** Вяшчун — прадказальнік.

Мяркуючы па летапісным сказе: «...князь жа Глеб і дружына яго сталі каля епіскапа, а людзі ўсе ішлі за вешчуном» — большасць насельніцтва падтрымала вешчуна. Князь і епіскап засталіся фактычна ў адзіноце. Убачыўшы такое становішча, наўгародскі князь узяў пад кашулю сякеру і падышоў да вешчуна. Пасля кароткай паміж імі размовы Глеб выхапіў сякеру і засек вешчуна. Той упаў мёртвы, а людзі разышліся.



Вось такое складанае становішча было ў той час у Ноўгарадзе, калі на яго з водскім войскам рушыў Усяслаў Чарадзей.

26 кастрычніка ў 6 гадзін войска князя Глеба сустрэлася з войскам Усяслава каля Зверынца на рацэ Гзень. Для наўгародцаў гэтая сустрэча не была нечаканай, а таму абодва войскі амаль адразу ўступілі ў бітву. Як апавядае летапісец, «ваджанам была вялікая сеча і загінула іх шмат без ліку». Князь Усяслаў трапіў у палон. Але яго адразу ж адпусцілі «дзеля Бога». Да гэтага часу гісторыкі асабліва не зважалі на такі факт. Чаму Усяслава адпусцілі? На нашу думку, падобнае магло здарыцца толькі з незвычайна паважлівых адносін да князя, да яго дзейнасці і як палітычнага лідэра, і як абаронцы старых непісаных законаў.

Пасля паражэння на Гзені імя Усяслава на два гады знікае са старонак летапісаў. Відаць, мы не памылімся, калі скажам, што ў гэтыя гады Усяслаў знаходзіўся сярод балцкіх плямёнаў. Бо нездарма ж у 1071 годзе мы бачым яго на чале войска літоўцаў, эстаў, ліваў, летаў і семігалаў пад сценамі Полацка, дзе тады княжыў сын Ізяслава кіеўскага Святаполк.

«Выгнаў Усяслаў Святаполка з Полацка» — вось і ўсё, што кажа летапіс. Відаць, гэта была лёгкая перамога, якая тым не менш не абяцала Усяславу лёгкага жыцця.

Князь кіеўскі Ізяслаў не пакінуў без увагі аднаўленне ўлады Чарадзея ў Полацку. Барацьбу з Усяславам узначаліў брат Святаполка, старэйшы сын Ізяслава — Яраполк. У 1071 годзе Яраполк разбіў Усяслава пад Галацічаскам (дарэчы, гэты горад не знойдзены археолагамі дагэтуль). Але гэтая перамога не мела істотных вынікаў ні для Полацка, ні для Кіева. Адбылося прыкладна тое ж, што і пасля бітвы на Нямізе. У Яраполка не хапіла моцы, каб вярнуць Кіеву Полацк, а Усяслаў проста не меў патрэбы ісці на Кіеў ці за межы свайго княства.

І зноў пра Усяслава Полацкага на старонках летапісу пустата-лакуна на два гады. Чым ён тады займаўся — цяжка сказаць. Хутчэй за ўсё выпраўляў справы сваёй зямлі, значна парабаванай у час кіравання кіеўскіх намеснікаў. Збіраў войска, зброю, бо не было ўпэўненасці, што пакінуць яго ў спакоі.

Пакуль быў жывы Усяслаў Чарадзей, ніхто не адважваўся перасекчы мяжу Полацкага княства. З 1084 да 1105 года летапісы маўчаць аб войнах супраць Полацкай зямлі. А гэта ж 21 год!

Аўтарытэт Усяслава Чарадзея быў настолькі вялікі, што нават пасля яго смерці нейкі час Полаччына заставалася па-за межамі розных дынастычных сварак.

Тым часам у Полацку гадаваліся нашчадкі Усяслава. Розныя даследчыкі налічваюць 6, а то і 7 яго сыноў: Давыд, Глеб, Раман, Расціслаў, Святаслаў-Георгій, Рагвалод-Барыс. Апошняга, князя Рагвалода-Барыса, некаторыя лічаць за дваіх — Рагвалода і Барыса. Дакладны час нараджэння княжычаў невядомы, акрамя, бадай, Расціслава. Пад 1070 годам у Іпацьеўскім летапісе па Хлебнікаўскім і Пагодзінскім спісах адзначана: «Нарадзіўся ва Усяслава сын, і назвалі яго імем Расціслаў». Але па другіх спісах гэтага летапісу сын нарадзіўся не ва Усяслава, а ва Усевалада. Усе ж астатнія княжычы з'яўляюцца на старонках старажытных пісьмовых крыніц толькі пасля смерці бацькі — Усяслава Чарадзея. Гэта і не дзіўна, бо побач з ім, такой незвычайнай гістарычнай постаццю, сыны, безумоўна, былі ў цені. Несумненна, што ўсе яны з маленства выхоўваліся гэтак жа, як калісьці сам

Усяслаў. З малаком маці яны ўвабралі ваярскую і валадарскую навуку. І не толькі яе.

Дзякуючы мудрай і празорлівай палітыцы Усяслава яго дзяржава стала недасягальнай для валадароў зямных. Але тое, што не маглі зрабіць яны, было пад сілу Уладару нябеснаму — Богу. Ці не з гэтым звязана апошняя «прыпеўка», якую праспяваў Усяславу славуты Баян:

*Ні хітраму,*
*ні спрытнаму,*
*ні чарадзею дасціпнаму*
*суда божага не мінуць.*

Адзіны суд, якому быў падуладны Усяслаў Чарадзей, — суд Божы. Перад ім шматпакутны і ўдачлівы полацкі князь урэшце і паўстаў. Першая нататка, з якой пачынаюцца летапісныя артыкулы 1101 года, такая: «Спачыў на векі Усяслаў, князь Полацкі, месяца красавіка, у чатырнаццаты дзень, дзевяць гадзін дня, у сераду». Незвычайная для летапісаў дакладнасць, але ж і незвычайная для гісторыі постаць — Усяслаў Брачыславіч Чарадзей, вялікі князь Полацкі.





*Навукова-папулярнае выданне*

Гісторыя для школьнікаў

**Тарасаў** Сяргей Васільевіч
УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

Рэдактар Ю.У. Каласоўскі
Камп'ютарная вёрстка, дызайн П.В. Баранава

Падпісана да друку 17.08.2012. Фармат 60x90 ⅛.
Папера афсетная. Друк афсетны. Гарнітура Літаратурная.
Ум. друк. арк. 2,5. Ул.-выд. арк. 1,5. Тыраж 3000 экз.
Заказ 429.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ №02330/0494061 ад 03.02.2009.
Зав. Калініна, 16, 220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ОАО «Красная звезда».
ЛП № 02330/0552716 от 03.04.2009.
1-й Загородный пер., 3, 220073, г. Минск, Республика Беларусь.

**У Выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» ў серыі «Гісторыя для школьнікаў» рыхтуюцца да выдання кнігі для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту, прысвечаныя знамянальным старонкам і славутым асобам у гісторыі нашай Радзімы:**

«Юные герои Великой Отечественной войны»,
«Батька Минай и Константин Заслонов»,
«Сидор Ковпак и Пётр Машеров».

